Збе-
рагчы
і Павя-
лічыцць

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Дзедзіч

№1 (86) • КРАСАВІК 2014






Фота: паштоўка з Берасця, аўтар Т. Бахун; крыніца: virtual.brest.by

# "НАША МОВА"

**Студэнцкае молодзевае аб'яднанне «Харугва» пры падтрымцы АРР «Дзедзіч» працвягвае кампанію «Наша мова», распачатую яшчэ мінулым годзе.**

Студэнтаў і маладзёнаў Берасця, а таксама проста неабыякавых людзей чакае наперадзе шмат новых акцый і конкурсаў, прысвечаных беларускай мове і культуры.

Не для каго не будзе вялікім адкрыццём той факт, што ў Берасці, як і па ў сёй Беларусі, беларуская мова знаходзіцца ў даволі цяжкім стане. Акрамя інтэлігенцыі і грамадскіх актывістаў мала хто цікавіцца роднай культурай ці выкарыстоўвае беларускую мову як сродак камунікацыі і адукацыі.

Асноўнай прычынай гэтага з'яўляецца, вядома, шматвекавая русіфікацыя, якая праводзілася царскім, а потым савецкім рэжымамі. Акрамя гэтай прычыны, ёсць яшчэ шэраг праблем. Сярод іх галоўныя - гэта стаўленне да беларускай мовы як да «вясковай» і адсутнасць усялякіх турыстычных вандровак, экскурсій, не звязаных з Вялікай Айчыннай вайной (няўжо іншай гісторыі ў Берасця няма?).

Аднак магчымасць усё змяніць, безумоўна, ёсць, і яна знаходзіцца ў нашых з вамі руках.

У рамках праекту ўсім ахвотным прапануецца паўдзельнічаць у конкурсах на любы густ і любыя здольнасці: напісанне вершаў, эсэ, фатаграфіі, віктарыны, стварэнне аўтарскіх беларускамоўных паштовак, - і любы актыўны ўдзел абавязкова будзе ўзнагароджаны каштоўнымі прызамі.

Першы конкурс ***«Кахай па-беларуску»***, які ўжо адбыўся, быў прымеркаваны да Дня ўсіх закаханых. Падрабязнасці чытайце на старонцы 8. Далей прайшоў ***«Берасцейскі ВЕРШнік»***, дзе ўдзельнікам прапанавалі спаборнічаць ў напісанні вершаў - абавязкова па-беларуску і пра Беларусь. Пасля напружанага галасавання (якое праходзіла у суполцы **«Наша мова» у «Укантакце» vk.com/nashamova**), вызначылася пераможца Ірына Зорка, якая перамагла са сваім вершам «Радзімка», яна і атрымае галоўны прыз - электронную кнігу. Скончыўся яшчэ адзін конкурс, інтэрнэт-віктарына ***«Ведай мову!»***, у якой на дапамогу гугла разлічваць не даводзілася.

Але сумаваць не прыходзіцца, бо ўсё толькі пачынаецца. А менавіта, нас чакаюць: конкурсы ***«ФотаМаўленне»*** і ***«Моўны фотаэкстрым»*** (падрабязнасці пазней, але фотаздымач вам дакладна будзе патрэбны), інфармацыйная кампанія, акцыі «Мова Дзеткам» (адна з такіх акцый ужо адбылася ў снежні мінулага года) і турыстычная вандроўка па Берасцейшчыне.

Падрабязнасці пра конкурсы і акцыі, а таксама шмат розных цікавостак можна знайсці ў адмысловай суполцы «Наша мова» **vk.com/nashamova**, а таксама на сайце **dzedzich.org.**

**dzedzich.org**

## У НУМАРЫ:

# ВЫБАРЫ, ЯКІХ НЯМА

## УРЫЎКІ З ДЗЁННІКА НЕЗАЛЕЖНАГА НАЗІРАЛЬНІКА

**Цягам выбарчага тыдня я прысутнічала на ўчастку для галасавання №75, які месціўся ў брэсцкай гімназіі №2, і назірала за тэатрам, што называецца "Выбары".**




**17 САКАВІКА. ПАНЯДЗЕЛАК**

Каб быць назіральнікам, трэба, каб хтосьці дэлегаваў табе такія паўнамоцтвы. Ёсць розныя варыянты, але мне найпрасцей было дамовіцца з якой-небудзь палітычнай партыяй, тым больш што закон не абавязвае назіральніка быць сябрам гэтай партыі. З пратаколам пасяджэння Рады Партыі БНФ, у якім вырашана накіраваць мяне на ўчастак №75, я іду акрэдытоўвацца.

Першая мая місія як назіральніка - падаць прапанову пра падлік галасоў. Яна патрэбная, каб дамовіцца з камісіяй аб правілах "гульні" ў момант падліку, бо падрабязна гэтая працэдура ў Выбарчым кодэксе не прапісаная. Назіральнік мае права падаваць такія прапановы, каб у яго не заставалася сумненняў у адкрытасці выбараў і іх вынікаў. Але наменсік прапанову маю не бярэ, бо не ўпэўнены, ці маю я на гэта права. А ў выпадку сумненняў, канешне, лепш адмовіць. І сказаць: "Вы самі ведаеце, што кодэкс такога не прадугледжвае".

**18 САКАВІКА. АЎТОРАК**

Першы дзень датэрміновага назірання. У 9.45 збіраецца 10 чалавек з камісіі, каб апячатаць скрыню. Старшыні няма, але ёсць наменсік, якога я ўжо ведаю. Падчас апячатвання адбываецца нейкі разгул дэмакратыі, і мне нават даюць паглядзець, ці добра завязаны вузельчыкі шпагату. Гэта зусім лішняе, але правяраю. Пасля без праблем рэгіструюць маю прапанову, так што мне нават не прыходзіцца пускаць у ход артылерыю з пунктаў кодэкса.

Пад канец дня, у які прагаласавала ўсяго 11 чалавек, прыходзіць старшыня Аксана Івашова, дырэктар пачатковай школы №34. Настроена дабрадушна, усміхаецца. Жартуе, што ў нас падлікі, як у аптэцы. І сапраўды: у выніковым пратаколе, які фатаграфую, колькасць выдадзеных бюлетэняў супадае з колькасцю падлічаных намі выбаршчыкаў.

**19 САКАВІКА. СЕРАДА**

З самай раніцы мне пазванілі з камісіі і запрасілі на разгляд маёй прапановы адносна падліку галасоў. Пасяджэнне адбудзецца ў кабінеце дырэктара 34-й школы ў 18 гадзін. На ўчастку застаецца адна з маіх калег, таму падлік людзей будзе весціся бесперапынна.

Кароткага дыялогу ў прыёмнай дастаткова, каб зразумець: учарашняя прыветная старшыня ператварылася ў фурыю. Мяне просяць пачакаць у калідоры і клічуць толькі тады, калі камісія займае свае месцы вакол дырэктарскага стала. Мне выдзелілі край канапы ля дзвярэй, агульная атмасфера вельмі няўтульная.

Чытаюць маю прапанову. У месцы, дзе гаворыцца пра сябраў камісіі, Івашова перапыняе і пытаецца, што я мела на ўвазе. "Мы не сябры, мы члены!" -- кажа яна, і я не пярэчу. У гэты момант у кабінеце адны суцэльныя члены.

Пасля прачытання старшыня-дырэктар нагадвае камісіі, што яны кіруюцца Выбарчым кодэксам, а назіральнік заклікае іх ад гэтага кодэкса адступіць. Ну і выносіцца адпаведнае пытанне на галасаванне: хто за кодэкс, а хто за назіральніка. Я спрабую ўзяць слова і патлумачыць, што мая прапанова інтэрпрэтуецца скажона, але слова мне не даюць. Са свайго дырэктарскага крэсла Івашова гаркае, што назіральнік можа толькі прысутнічаць. Нават калі разглядаюць яго прапанову.

Пасля гэтага наступае апошні акт п'есы. Кароткае абмеркаванне перад галасаваннем зводзіцца да пары фраз. Адна з настаўніц ціхенька кажа, што "мы за кодэкс", другая дадае, што яго пісалі "больш разумныя людзі, чым некаторыя". Усе галасуюць, а сакратар Юрый Алексяюк з БРСМ разам са мной выходзіць і аддае гатовы экзэмпляр адказу.

Але прыкрыя моманты на гэтым не заканчваюцца. Вяртаюся на ўчастак, дзе неўзабаве павінны апячатваць скрыню і вывешваць выніковы пратакол. І тут мне гавораць, што фатаграфаваць пратакол больш нельга. Наменсік старшыні паказвае на таблічку з забаронай аўдыё і відэа, якую сёння прынёс. Спрачаемся. Мой аргумент: пратакол - публічная інфармацыя. Іх аргумент: нельга, таму што я - назіральнік. Аргумент дзіўны, бо назіральнік якраз і мае першачарговае права на капіраванне пратакола, але казаць пра гэта людзям, якія калі і чыталі Выбарчы кодэкс, то не далей за вокладку, не мае сэнсу. Дастаю журналісцкае пасведчанне і кажу, што буду тады здымаць як журналіст.

Што на гэта адказаць, наменсік і сакратар не ведаюць. Занадта неардынарная для іх сітуацыя. Пачынаюцца доўгія перамовы па тэлефоне з начальствам. У выніку з'яўляецца элегантны адказ, што ў Выбарчым кодэксе напісана, быццам назіральнік не можа быць журналістам. А дакладны артыкул кодэкса мне ніхто называць не абавязаны.

Такім чынам, мой працоўны дзень сёння канчаецца толькі ў 12 ночы. Пішу скаргі на тое, па-першае, што прапанова не была разгледжана па сутнасці і што адзін з "членаў" дапусціў абразу назіральніка. Па-другое, што мне як назіральніку не далі магчымасці зрабіць копію пратакола. І па-трэцяе, што на ўчастку мяне адмовіліся зарэгістраваць як журналіста.

**20 САКАВІКА. ЧАЦВЕР**

За хвілін 15 да закрыцця ўчастка прыходзяць калегі-журналісты. Ім адмовіць у рэгістрацыі няма падставы, таму яны здымаюць усё, што патрэбна ім і што патрэбна нам. Прыходзіць старшыня з сакратаром і загадвае, каб іх не здымалі, але калегі на гэта справядліва не звяртаюць увагі, паколькі ўсе сябры камісіі - публічныя асобы на час выбараў.

Калі вывешваюць пратакол, заўважаем, што нашы падлікі з падлікамі камісіі пачынаюць расходзіцца. Пакуль нязначна - у 9 чалавек.

**21 САКАВІКА. ПЯТНІЦА**

Сёння добрае надвор'е, і людзі з раніцы ахвотна заходзяць. Гадаем, колькі прыпішуць. Пасля вывешвання пратакола бачым: 26 чалавек. Кажу пра заўважанае сакратару, але ніхто на гэта не рэагуе.

**Працяг на старонцы 3**







# ЧТО ТРЕБУЮТ В УНИВЕРСИТЕТЕ?

**Что делать, если требуют взятку колбасой? Как поступить, если для допуска к экзамену нужно спеть песню, сочиненную преподавателем? Портал ampby.org разбирается вместе со «СтудРадой».**

**Трое бывших студентов минских университетов вспоминают самые нелепые нарушениях их прав.**




**ЧТОБЫ СДАТЬ, НУЖНО СПЕТЬ**

**Катерина:** Экономику у нас вел очень «патриотично» настроенный преподаватель. На каждое занятие он приносил ноутбук и показывал отрывки белорусских новостей – про открытие новых спортивных объектов, студенческих общежитий и спортивные успехи отечественных атлетов. Кроме этого, на каждую пару экономические новости нужно было готовить самим. И не дай бог, в новостях была хоть минимальная критика проводимой экономической политики или намек на плохую ситуацию в стране, оценка снижалась немилосердно.

Но самое интересное ждало нас перед экзаменом. Всем, кто хотел допуститься, в обязательном порядке нужно было выучить песню, сочиненную преподавателем, да еще и исполнить ее под фонограмму.

***Комментарий «СтудРады»:*** На практике то, как будет сдаваться, например, экзамен, решается на заседании соответствующей кафедры еще в начале семестра.

Нужно знать, что есть конкретный документ (протокол заседания, решение и т.п.), который принят на заседании кафедры и который устанавливает в форму сдачи зачёта или экзамена. Если преподаватель заставляет тебя петь песни, то можно смело идти сначала к заведующему кафедрой и с ним выяснять, как же ты все-таки должен сдавать этот предмет. Дальше можно обращаться к декану, ректору, в профсоюз, в Минобр. На одном из уровней такой вопрос точно будет решён в твою пользу, но вот на каком именно, сказать точно сложно.

**ВОЗЬМИТЕ МНЕ КОЛБАСКИ СЫРОВЯЛЕНОЙ И КОНЬЯЧКА**

**Валентин:** Один наш преподаватель для того, чтобы группа нормально сдала экзамен (читай, не должна была рассказывать конспект слово в слово и не была бы завалена дополнительными вопросами), требовал взятку. При этом деньги не принимались, нести нужно было только два типа подарков: алкоголь и колбасу.

Для того чтобы узнать, что нужно было покупать каждой группе, старосты приходили накануне экзамена на кафедру и получали указания. Нам, например, досталось еще простое задание: «Возьмите мне колбаски сыровяленой и коньячка».

***Комментарий «Студрады»:*** Ты никому ничего не должен, кроме того, что от тебя требует законодательство. Платить преподавателю за оценки – это где-то закреплено? По сути действия преподавателя можно расценить как вымогательство или получение взятки, за что может грозить и уголовная ответственность.

Привлекай внимание к проблеме: спроси совета у организации студенческого самоуправления, обращайся в профсоюз, к местным органам власти. Можно пробовать решать ситуацию сначала на уровне университета – поговорить с деканом, ректором, а потом уже обращаться в правоохранительные органы.

Согласно статье 40 Конституции, каждый человек имеет право на обращение в любой государственный орган.

**КАЖДОМУ ЧЛЕНУ – ПЛЮС БАЛЛ**

**Змитрук:** Одна наша преподавательница очень болела за БРСМ. Видимо, воспитанная в Советском союзе, она привыкла, что каждый уважающий себя студент должен быть комсомольцем. Поскольку ВЛКСМ канул в Лету, а студентов нужно было куда-то пристраивать, она выбрала такую тактику: каждый член БРСМ получал на ее экзамене +1 балл к итоговой оценке. Если же студент не являлся членом, то обязан был выслушать долгую лекцию о современной молодежи, а также уйти с максимальной оценкой в 9 баллов, даже если отвечал блестяще.

***Комментарий «СтудРады»:*** У нас правовое государство (это в Конституции закреплено), а в правовом государстве все равны перед законом. Все должны быть равны и на экзамене: и те, кто постоянно ходил на пары, и те, кто пропускал, и те, кто получает одни 9, и те, кто получает 6, и те, кто в БРСМ, и те кто, в «Студэнцкай Радзе».

Тем более, нельзя каким-либо образом принуждать вступать в БРСМ (и не только в БРСМ, в профсоюз, например, тоже). В соответствии со статьёй 36 Конституции каждый имеет право на свободу объединений.

**По материалам ampby.org**

# ВЫБАРЫ, ЯКІХ НЯМА

**Працяг. Пачатак на старонцы 2**

Цікава, ці разумеюць гэтыя людзі, што робяць нешта не толькі злачыннае з пункту погляду закона, але і амаральнае з гледзішча традыцыйных стасункаў між людзьмі? Можа, яны думаюць, што прыносяць карысць грамадству ды хваляцца сваімі ўчынкамі дома і ў кампаніі?

Пра іншых удзельнікаў фарса думаю таксама. Пра пенсіянераў, якія ідуць галасаваць проста па звычцы, і пра палітычныя партыі, якія прымаюць удзел у выбарах невядома з якой мэтай. Па-мойму, найбольш годна ім усім да адной самараспусціцца, каб не служыць дэкарацыяй для "дэмакратыі". Гэта тое, што займае мае думкі падчас доўгага сядзення на ўчастку.

**22 САКАВІКА. СУБОТА**

З раніцы рэгіструю наступную скаргу пра фальсіфікацыю вынікаў папярэдняга галасавання. Заадно пытаю, калі будуць адказы на мінулыя скаргі. Іх мне, аказваецца, выслалі поштай, бо "так вырашылі".

Адказы нельга нават назваць стандартнымі адпіскамі, бо ў адпісках стараюцца хоць закон нейкі згадаць. Тут жа вада ні пра што. У якасці аргументаў максімум спасылкі на метадычку для членаў камісіі, хаця можна было б з дапамогай той жа метадычкі адшукаць і нейкі двухсэнсоўны артыкул закона.

Але ўвогуле я стамілася і не магу больш моцна абурацца. Гэта вельмі знясільвае, калі вакол усё дагары нагамі: добрае становіцца дрэнным, справядлівае - двурушным, злачынца - добрым работнікам, а выканаўца закону - сабатажнікам. Таму вечарам я моўчкі занатоўваю наступную прыпіску ў 202 галасы і маральна рыхтуюся да асноўнага дня галасавання. Скаргу пакідаю на заўтра.

**23 САКАВІКА. НЯДЗЕЛЯ**

Сёння мы знаходзімся ў калідоры. З раніцы запячатваюць скрыні. Нам з задавальненнем дэманструюць, што яны пустыя. Дзіўнае ад гэтага складваецца ўражанне. Увесь час не даюць назіраць за тым, што сапраўды важна бачыць, затое ледзь не пад нос паднясуць скрыню пры апячатванні, калі і так зразумела, што там нічога няма.

Да таго ж скрыня знаходзіцца ў другім канцы калідора, і бачыць, што ў яе кідаюць, амаль немагчыма. Хаця з прыпіскай у 228 галасоў на датэрміновым галасаванні гэтыя выбары ўсё роўна ўжо не маюць ніякага значэння. Людзі гэтага не ведаюць і наіўна ідуць галасаваць - няхай і не ў той колькасці, што аб'яўяць пасля. Некаторыя, распісваючыся ў ведамасці, скардзяцца, што нічога ад гэтых выбараў не памяняецца, але бюлетэні бяруць і нават пытаюць, за каго трэба галасаваць. А хтосьці заходзіць і віншуе са святам.

Адзін з выбаршчыкаў падыходзіць і нас і пытае, ці не можам мы пасадзейнічаць, каб на Маладагвардзейскай спілавалі нейкія дрэвы. Пасля махае рукой і са словамі "не было толку і не будзе" сыходзіць. А другая бабулька канстатуе: "Нічога не зменіцца. Мы адмучыліся, а маладым яшчэ мучыцца". І нягледзячы на гэта, таксама прымае ўдзел у п'есе.

Назіраць за падлікам галасоў, як я і чакала, не даюць. Хоць нават у метадычцы, на якую так любіла ў адказах спасылацца Івашова, напісана, што назіральнік мае права стаяць ля стала, старшыня груба саджае мяне на месца - за 4 метры ад стала падліку. Працэдура абсалютна закрытая. Ніхто не ведае колькасці бюлетэняў у стосіку суседа, усімі лічбамі валодае толькі старшыня. Іх лічбы з нашымі зноў не супадаюць, але гэта проста нагода нам з калегамі шматзначна пераглянуцца, не больш. Лічба галасавання на даму - 149 чалавек - выклікае такі ж скепсіс, тым больш што ўкладны ліст нам ніхто не паказаў.

Дадаю яшчэ два пункты пра немагчымасць назірання ў падрыхтаваную скаргу і прашу дадаць яе да пратакола. Яе мусяць разглядзець калегіяльна, але ў такую дэмакратыю ўжо не граюць. Мне тут жа пішуць адказ, што ўсё на ўчастку "чыкі-пукі", а назіральнікі сядзяць на такой адлегласці, каб не перашкаджаць. Адказ, канешне, не на мове звароту, але пра такія парушэнні закона я ўжо проста маўчу. Беларускамоўны пратакол таксама запоўнены парусску.

"Выбары" закончыліся. Без парушэнняў, як пасля аб'явіць Цэнтрвыбаркам.

*P.S. Ужо ў панядзелак я атрымала ліст з гарадской выбарчай камісіі: факты, выкладзеныя мною, "не пацвердзіліся". Хто ж у гэтым, цікава, сумняваўся?*

**Іна Хоміч , bk-brest.by**

# ЖОЎТА-БЛАКІТНЫЯ АВАТАРЫ

**«Нас разводзіць не крымская вайна, а выяўленыя ў звязку з ёй каардынальныя разыходжанні ва ўяўленнях пра дабро і зло», — кажа Шандаровіч. Менавіта пра гэта я думаю ўвесь час з пачатку пратэстаў у Кіеве.**




Не, мяне не развяла з сябрамі гэтая тэма. Наадварот, сябры напэўна і робяцца сябрамі акурат праз блізкасць разумення дабра і зла, а не праз колькасць супольных вечарынак ці дасланых паштовак. Кампанія за суседнім столікам у кафэ, спадарожнікі ў аўтобусе, аднакурснікі, калегі ў офісе, таксісты — раскоша самому выбіраць сваё атачэнне не заўсёды магчымая. Такім чынам у моманты вырашальных гістарычных падзей вакол часта апынаюцца людзі іншай рэальнасці.

Спрачацца, пераконваць альбо адасобіцца і моўчкі назіраць — цяжкі выбар апошніх месяцаў.

Не буду спрачацца з людзьмі, якія з жывёльнай нянавісцю ківаюць ля экранаў тэлевізараў, на кухнях, а потым разносяць па каментах сайтаў і офісных чатах, каб «пастралялі гэтых бэндэраўцаў», «вярнулі ісконно русскіе землі», «навялі парадак моцнай рукой». Усе аргументы бяссільныя, калі чалавек асуджае іншых на смерць, свядома робіцца саўдзельнікам злачынства. Калі на зло нехта глядзіць праз ружовыя акуляры, гэта той выбар, які не паддаецца тлумачэнню. Ёсць толькі расчараванне і нежаданне псаваць час на размовы пра каштоўнасці, якія выхоўваюцца ў дзяцінстве.

Я адмовілася глядзець тэлевізар шмат гадоў таму. Не з асаблівых глыбокіх тэорый, а проста шкада стала на яго часу ды месца ў прасторы кватэры вызвалілася. У мірны час знешне і не заўважыш, хто чым займаўся ўвечары — ганяў на ровары, піў піва ў парку ці троліў перад экранам чарговага лаўрэата Еўрафэста. Аднак на фоне палітычных падзей заўважна вылучаюцца людзі, якія праводзяць вечары каля тэлевізара, гледзячы выпускі навінаў у перапынках між серыяламі пра мянтоў.

Вось Вася два гады працаваў з Дзімам, абедалі разам, на карпаратывы хадзілі, дзясятак супольных фотак у Фэйсбуку. А сёння Дзіма шчыра заяўляе, што «бэндэраўцы анархію развялі, збіваюць у Крыму рускіх» і катэгарычна не прымае пярэчанні Васі, бо ўсё бачыў на ўласныя вочы па розных каналах ТВ.

Трэці калега прапануе хлопцам не забіваць галаву чужымі разборкамі/сусветнай змовай і пайсці на піцу.

> «НЕ ЗАБІВАЦЬ ГАЛАВУ ЧУЖЫМІ РАЗБОРКАМІ», КАЛІ Ў СУСЕДНЯЙ КРАІНЕ, У ГОРАДЗЕ, ДЗЕ ПРАЦУЮЦЬ ЗНАЁМЫЯ, ДЗЕ ВЯСНОЙ КВІТНЕЮЦЬ САМЫЯ ПРЫГОЖЫЯ КАШТАНЫ, НА МІРНАЙ ДЭМАНСТРАЦЫІ ЗБІВАЮЦЬ СТУДЭНТАЎ, А ПОТЫМ РАССТРЭЛЬВАЮЦЬ БОЛЕЙ 100 ЧАЛАВЕК.

«Чужыя разборкі» не забіваюць галаву, калі на праспект каля офіса людзі выходзяць на акцыю пратэсту, каб выказаць нязгоду з аўтарытарным рэжымам, які акопваецца на дзесяцігоддзі. У гэтыя хвіліны ў беларускіх турмах сядзяць людзі проста з-за сваіх поглядаў. І пакуль ідзе барацьба за іх свабоду, Дзіма і калегі могуць пачуваць сябе бесклапотна, бо чарга да ціхіх офісных супрацоўнікаў дойдзе не хутка.

Даведацца, што на самой справе адбываецца за вакном альбо ў суседняй сталіцы, не проста. Праўду, ў адрозненне ад прапаганды, не падаюць у яркіх каляровых пакунках ды зручных для спажывання формах. Але быць салідарным са смелымі — самае мінімальнае, што можа зрабіць нават самы асцярожны.

**generation.by**

**Фота: Здымак зроблены ў Менску 16 сакавіка 2014 году. Аўтар малюнку Воля Кузьміч, фота Юра Сідун, праект Freedom on Paper.**

## ЧЕМУ БЫ МЫ МОГЛИ НАУЧИТЬСЯ У УКРАИНЦЕВ?

**Уже несколько месяцев в Украине происходят события, которые не могут оставить равнодушными белорусов и уже набили своего рода оскомину.**

Украина и её граждане – это огромный пример для всех жителей постсоветских авторитарных «княжеств», возглавляемых местными божками. Давайте попробуем проанализировать, чему бы мы, граждане Беларуси, могли бы поучиться у украинцев.

***Первое, что сразу приходит на ум – патриотизм.***

Любовь к своей стране видна отовсюду. Начиная с национальных символов на площадях заканчивая крайне патриотичным концертом Океана Эльзи на Майдане. Суть самого движения – втянув Украину в Европу, сделать ее лучше для граждан, а не для погрязших в феодализме и беспределе правящих кругов. Надежд на то, что ее сделает лучше утопающая в коррупции власть и семья Януковича нет даже у самых ярых его сторонников. Надежда лишь на европейцев, которые смогут заставить власть соблюдать гражданские права и вести себя в рамках законов.

Мы, в том числе и представители силовых структур, должны понять, что избивать дубинками граждан, мирно выражающих свое недовольство ситуацией в стране не имеет права никто. Это страна такая же наша, как и их. Януковичу еще раз показали, что в Украине, как и в любой цивилизованной стране, это не принято.

***Мы могли бы научиться чувству ответственности за то, что происходит в стране.***

Перестать быть безропотным «населением» или «народцем», судьбы которого решают великие мира сего, исходя лишь из одного своего усмотрения. Янукович всё-таки, не усидел в кресле. А ведь единственное, что он сделал – попытался сыграть в политику качелей, проводимую в Беларуси уже долгие годы. Целью Януковича было «развести на бабки» как Запад, так и Восток, и последнее, чего он ожидал, так это подобной реакции в стране.

Европа сегодня превратилась для значительной части украинцев (и в этом немалая заслуга самих властей) в цель. Пускай этот шаг ведет всего лишь к свободной торговле, но рано или поздно он приведет Украину в ЕС.

Украинцы показали нам, как и для чего надо защищать свои права и свое будущее. Потому что в XXI веке будущее для себя и своих детей имеют право выбирать сами граждане, а не их коррумпированные циничные правители.

***Мы могли бы поучиться у украинцев взаимопомощи, гражданской солидарности, небезразличию друг к другу.***

Держись евромайдан лишь на деньгах, он давно бы уже пошел прахом, точно также как проваливаются все провластные выступления, организованные за деньги. Мы могли бы научиться у украинцев быть гражданами, любящими и верящими в свою страну. Нам стоит поучиться у них быть настоящими людьми.

Слава Україні!

**dzedzich.org**



# БОЛОНСКИЙ ПРОЦЕСС
## ДЛЯ БЕЛАРУСИ

**В 2012 году Беларусь делала попытку вступить в Болонский процесс. Но заявка была отклонена, Беларуси дали ещё пару лет на то, чтобы изменить систему высшего образования так, чтобы она соответствовала Европейским стандартам. Но что такое Болонский процесс и зачем он нужен Беларуси?**




«Болонским» принято называть процесс создания странами Европы единого образовательного пространства. Его начало было положено подписанием в 1999 г. в Болонье (Италия) Болонской декларации. Провозвестниками Болонской декларации обычно – и по праву – считают Великую хартию университетов (Болонья, 1988) и Сорбоннскую декларацию (Париж, 1998).

В 1988 министры образования Франции, Германии, Великобритании и Италии, участвовавшие в праздновании 800-летия Парижского университета, подписали Сорбонскую декларацию. У неё были две основые цели: стандартизация Европейского пространства высшего образования и обеспечение соответствия квалификаций современным требованиям на рынке труда.

Болонская декларация была подписана 19 июня 1999 года. Она присоединенила к Болонскому процессу 22 европейских государства (Европейский Союз, Швейцария и новые страны-кандидаты).

В Болонской декларации были указаны 6 основных задач, решение которых, как предполагается, будет способствовать единению Европы в области образования.

- Это введение общепонятных, сравнимых квалификаций в области высшего образования, переход на двухступенчатую систему высшего образования (бакалавриат – магистратура, 1999 год);
- Создание общей системы условных единиц («кредитов»), подлежащих переводу: система трансфера европейских кредитов (European Credit Transfer System - ECTS);
- повышение мобильности студентов, преподавателей и административно-управленческого персонала (в идеале, каждый студент должен провести не менее семестра в другом вузе, желательно зарубежном);
- обеспечение необходимого качества высшего образования;
- взаимное признание квалификаций и соответствующих документов в области высшего образования;
- обеспечение автономности вузов и академических свобод студентов.

**ЧТО ТАКОЕ СИСТЕМА КРЕДИТОВ?**

Кредиты представляют собой оценку количества труда, затраченного на каждый учебный курс по отношению к общему количеству, необходимому для успешного завершения учебного года (лекции, практические занятия, семинары, индивидуальная работа и экзамены). Кредиты могут быть также получены вне системы высшего образования, включая профессиональные достижения, повышение квалификации, учёбу за рубежом.

Один учебный год: 60 кредитов, один семестр: 30 кредитов, один триместр: 20 кредитов. Соответственно: 180 кредитов для получения диплома Бакалавра (Bachelor) и 300 кредитов для получения диплома Магистра (Master).

**ЗАЧЕМ ПОВЫШАТЬ МОБИЛЬНОСТЬ?**

Европейская интеграция. Разные страны, разные традиции, меньше предрассудков и стереотипов после работы вместе (пример моей работы с украинцами, иранцем и вьетнамцем). Стресс, новая среда, тест для человека. С точки зрения экономики — более мобильные трудовые ресурсы — важный фактор для развития.

**ЧТО ТАКОЕ АВТОНОМИЯ ВУЗОВ?**

Автономия – это самостоятельность вузов в решении вопросов, отнесенных к их компетенции. Какие именно вопросы относятся к компетенции вузов, решает Закон, а в некоторых случаях – постановления Правительства или решения учредителя вуза. Болонский процесс придает принципу автономии вузов чрезвычайно большое значение.

Можно сказать, что реальная автономия вузов имеет место в ситуации, когда учредитель выполняет свои обязательства по финансированию вузов и созданию необходимых условий для их деятельности, а все вопросы, относящиеся к содержанию образования, методике преподавания, штатному расписанию и т.п., вузы решают самостоятельно.

При этом учредитель – и не только он - может, разумеется, «заказывать» вузу подготовку специалистов, необходимых для национальной экономики и культуры, что оформляется соответствующим образом (контрактом).

Некоторые предметы студент может выбрать самостоятельно, причём они могут быть совершенно не связаны с основной специальностью. Например студент-экономист может выбрать историю СССР или теорию карточных игр.

Большая роль придаётся повышению качества образования, например, через анонимные анкеты, отчисления за списывание и плагиат, open-book exam. А если вы не сдаете экзамен — вас не отчисляют.

Ректора выбирают преподаватели и студенты, он не назначается министерством образования. Осуществляются выборы представителей студентов и отстаивание их прав и интересов, не только на факультете, но даже и в общежитии, в котором студенты добились права бесплатных ночлегов для гостей.

**Роман К.**

# О, БАЛОНЬ!

**“О, Балонь!” – пад такой назвай у Берасці Агенцтва рэгіянальнага развіцця “Дзедзіч” (АРР “Дзедзіч”) рэалізуе праграму “Балонскі працэс і Беларусь”.**




Большая частка запланаваных акцый, сустрэч, семінараў, конкурсаў ужо праведзеная, але праграма ўсё яшчэ ў дзеянні.

Адбыліся сустрэчы-дыскусіі: што значыць Балонскі працэс, перспектывы і магчымасці, дзе размова шла пра тое, што такое Балонскі працэс і нашто ён нам патрэбны.

Прайшлі таксама навучальныя семінары па тэме “Адукацыя для беларускай моладзі: каштоўнасці, механізмы і магчымасці”. Трэнеры – актывісты АРР “Дзедзіч”, якія прайшлі вучэбны трэнінг па тэме Балонскага працэсу з дырэктарам Цэнтра развіцця студэнцкіх ініцыятыў Змітром Гаменюком. Мэта: высвятленне асацыяцый сярод студэнтаў з Балонскім працэсам, прыклады еўрапейскіх адукацыйных устаноў, дзе актыўна ўжываецца “балонь”.

У планах - эксперт-сустрэчы ў сферы вышэйшай адукацыі. Мэта: інфарміраванне студэнтаў пра станоўчыя і адмоўныя моманты ўступлення Беларусі ў Балонскі працэс, разважанне і меркаванні па дадзенай тэматыцы, дыскусіі.

БОЛЬШ ДАВЕДАЦЦА ПРА КАМПАНІЮ «О, БАЛОНЬ!», МОЖНА УКАНТАКЦЕ: VK.COM/O_BOLON

Папяровыя прыемнасці ад арганізатараў: буклеты “Што значыць Балонскі працэс?”, “Балонскі працэс і Беларусь” і “Акадэмічныя свабоды і каштоўнасці ў рамках Балонскага працэсу” для кожнага удзельніка семінару ці трэнінгу. З дапамогай раздатковых матэрыялаў “Балонь” не пройдзе міма вушэй.

Пайшоў конкурс фотаздымкаў пад назвай “О, Балонь!”. Усё, што якім-небудзь бокам сутыкаецца з адукацыяй у нашай краіне і за яе мяжой, справядлівыя і праблемныя сітуацыі ў фота. З самых лепшых прац будзе зроблена выстава. А аўтары трох лепшых прац атрымалі каштоўныя прызы!

Таксама не засталося без увагі Міністэрства адукацыі. Плануецца збор подпісаў з патрабаваннем выкарастання еўрапейскіх акадэмічных свабод у беларускім адукацыйным працэсе, з мэтай звярнуць увагу студэнтаў на адсутнасць “свабод” у беларускіх ВНУ.

Напрыканцы праграмы 15 лепшых удзельнікаў-студэнтаў і пераможцаў фотаконкурса паедуць на адукацыйны візіт у горад Люблін на 4 дні.

Удзельнікаў чакае: наведванне універсітэту Марыі Кюры-Складоўскай; наведванне каталіцкага ўніверсітэту Яна Паўла ІІ; сустрэча з моладдзю студэнцкіх арганізацый пры ўніверсітэтах; знаёмства з развіццём балонскай сістэмы ва ўніверсітэтах Любліна.

**dzedzich.org**

# BACK IN USSR

**23 февраля. Бывший «День Советской армии и военно-морского флота», переименованный в «День защитника отечества». Один из самых «совковых» праздников. Советская империя рухнула более двадцати лет назад, а «совковые» атавизмы вместе с ней, увы, не исчезли.**

**Писатель Владимир Козлов о том, почему «совок» нас не отпускает.**




За обломки советских ценностей цепляются государственные идеологи – из-за узости кругозора и из-за того, что им нечего предложить взамен. Эти ценности глубоко въелись в подсознание целых поколений, которые даже сами этого не осознают.

Двадцать лет с небольшим – не такой уж долгий срок, чтобы попрощаться с «совковым» наследием. Мы живем в городах, построенных при «Совке» – в них промзоны сливаются с уродливыми «каменными джунглями» спальных районов. У власти в постсоветских странах находятся люди, сформировавшиеся при «Совке», и свои «совковые» понятия они активно продвигают и навязывают.

Надо признать, что «совка» вокруг все же становится меньше. И это неизбежно: мир меняется. Но даже те, кому сейчас двадцать пять – тридцать лет, кто не застал СССР в сознательном возрасте, еще заражены им. Да, они не видели социализм во всей красе, но выросли в затхлых советских квартирах, их родители еще вступали в компартию и комсомол, несли херню на обязательных собраниях, принудительно выходили на демонстрации.

Праздники – самое очевидное проявление «совка». 23 февраля – праздник, придуманный большевиками, чтобы отвлечь народ от празднования Февральской революции. В Беларуси этот праздник кажется вообще абсурдным: в день рождения Красной армии в 1918 году Минск был занят немецкими войсками. В позднесоветское время на обывательском уровне «день Советской армии» превратился в абстрактный день мужчин – по принципу уравниловки: если есть «женский» праздник, то обязательно должен быть и «мужской».

8 марта – день фальшивых проявлений заботы о женщинах. 1 мая – насмешка над «солидарностью трудящихся» и над тем, во что превратились на практике идеи Карла Маркса, казавшиеся такими привлекательными сто с лишним лет назад. 7 ноября – день победы большевистской революции, на долгие десятилетия загнавшей огромную страну в «глубокую жопу».

Сегодня ни в Беларуси, ни в России нет государственных праздников, которые бы хоть как-то объединяли людей и что-то для них значили – кроме возможности не идти на работу и «накрыть поляну». Постсоветские режимы, застрявшие в «совке», не создали ни идеологии, ни даже мифологии. Единственный праздник, хоть немного общий для всех – Новый год, максимально далекий от политики и идеологии.

"СОВКОВЫЙ" МЕНТАЛИТЕТ – ЭТО РАЗДЕЛЕНИЕ НА "СВОИХ" И "ЧУЖИХ", НА "НАШИХ" И "ВРАГОВ"

Когда рухнул коммунизм, пришел консьюмеризм. У постсоветских людей он особый, в абсурдно преувеличенных формах. Люди, много лет прожившие при дефиците, офигели от ставшего доступным ширпотреба. Но консьюмеризм не заменил собой идеологию. И религия ее не заменила.

Вот и приходится вспоминать, что «у нас была великая эпоха», цепляться за достижения и победы советских времен, прикрывая свою собственную заурядность и скудоумие. Но «совок» – не только в абсурдных праздниках и фальшивой ностальгии по «великой эпохе».

«Совок», прежде всего, в менталитете. Советских людей воспитывали быть стадом, быдлом. Они не привыкли думать, они не привыкли действовать самостоятельно. Человеку с «совковым» менталитетом нужен «пастух», его нужно «вести за собой», ему нужно говорить, что праздновать, что смотреть, что читать, за кого голосовать.

Человек с «совковым» менталитетом боится и не хочет выделяться из толпы, он цепляется за свою тусовку, как двадцать пять лет назад цеплялись за членство в КПСС или комсомоле: надо же быть такими как все, «соблюдать партийную дисциплину».

«Совковый» менталитет – это разделение на «своих» и «чужих», на «наших» и «врагов». «Кто не с нами – тот против нас». «Кругом враги». «Нас нигде не любят». Постсоветского человека легко узнать за границей – не только по громкой русской речи, но и по какой-то «чужеродности»: те, кто чувствует себя «чужими», такими и становятся.

Даже на уровне эстетики и культуры «совок» остается для многих привлекательным: «Ах, какие были добрые советские фильмы, а сейчас одна сплошная чернуха-порнуха». Отсюда все эти римейки и сиквелы, «Иронии судьбы» и «Служебные романы». Может, и не самое худшее, но затхлое, надоевшее. А всякие кобзоны-ротару-пугачевы-леонтьевы не уйдут со сцены, похоже, никогда – но ведь находятся люди, которые ходят на их концерты, которые им аплодируют.

Все годы после распада СССР говорят об «идеологическом вакууме». Термин попсовый, но по-своему верный. Другое дело, что в этой «пустоте» нет ничего плохого. Это пространство, прежде занятое коммунистической хренью, освободилось. И каждый может заполнить его тем, чем хочет.

И людей, кто это делает, немало. Но есть и те, кто ничем его заполнить не могут, не хотят или не умеют – они и будут до последнего цепляться за «совок».

**34mag.net**

# ТОП-5 ПРЕМЬЕР БРЕСТСКОГО АКАДЕМИЧЕСКОГО ТЕАТРА



**Сцена из спектакля "На дне". Режиссёр Тимофей Ильевский**

**TUT.BY составил подборку из пяти последних премьер Брестского академического театра драмы.**

## «УРОЖАЙ», ПАВЕЛ ПРЯЖКО

Постановку по пьесе молодого белорусского драматурга впервые показали в брестском театре в мае 2013. Режиссер Денис Федоров очень внимательно отнесся к оригинальному тексту, потому в этом спектакле со сцены драмтеатра звучит нецензурная лексика. Однако это не мешает БАТД гордиться постановкой: Павла Пряжко, которого критики называют родоначальником новой белорусской драмы, крайне редко ставят в Беларуси.

## «НА ДНЕ», МАКСИМ ГОРЬКИЙ

Эту пьесу русского писателя, напротив, не ставил только ленивый. Режиссер брестского театра Тимофей Ильевский тоже решил добавить спектакль «На дне» к репертуару БАТД, поместив горьковских героев в современную жизнь.

## «ДОРОГАЯ ПАМЕЛА», ДЖОН ПАТРИК

Классика мировой драматургии в легкой и позитивной постановке Тимофея Ильевского. Спектакль-фарс, который позволяет зрителю отдохнуть в театре, не предаваясь размышлениям о судьбах вселенной.

## «МОЙ БЕДНЫЙ МАРАТ», АЛЕКСЕЙ АРБУЗОВ

Спектакль о любви на фоне эпохи. В основу сюжета положен любовный треугольник, который помогает изобразить душевные терзания героев, ведущих борьбу за свою жизнь и за счастье. Зрители увидели спектакль впервые уже 29 марта. Постановку приурочили к 70-летней годовщине освобождения Беларуси.

## «ГРОЗА», АЛЕКСАНДР ОСТРОВСКИЙ

Этот спектакль пока находится в работе. Заведующая литературно-художественной частью БАТД Олеся Бурдина отметила, что эта постановка удивит брестских зрителей очень любопытным экспериментальным решением. Премьера спектакля, который расскажет историю страдающей от произвола и бесправия женщины в купеческой семье, пока не назначена.

**TUT.BY, Фота: БАТД**

